# ЗВЯЗДА

3 красавіка 1996 г. серада, № 91 (22894)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

## РОЗГАЛАС

### ЗАКОНАПРАЕКТ АБ АДМЕНЕ Ў РЭСПУБЛІЦЫ ІНСТЫТУТА ПРАПІСКІ РЫХТУЕ ПАРЛАМЕНЦКАЯ КАМІСІЯ ПА ПРАВАХ ЧАЛАВЕКА

**Пастаянная камісія Вярхоўнага Савета па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі гатова вынесці на разгляд сесіі шэраг падрыхтаваных законапраектаў — аб аўтарскім і сумежных правах, аб зваротах грамадзян, змяненні і дапаўненні ў Закон аб друку і іншых СМІ.**

На дадзеным этапе камісія рыхтуе Закон аб свабодзе перамяшчэння і выбары месца жыхарства, які, па словах намесніка старшыні камісіі Уладзіміра Нісцюка, «будзе першым крокам на шляху да ліквідацыі інстытута прапіскі» ў рэспубліцы. У дапаўненне да сказанага камісія рыхтуе матэрыялы для ўвядзення ў краіне пасады ўпаўнаважанага па правах чалавека; рашэнне аб увядзенні гэтай пасады прыняў Вярхоўны Савет сваёй пастановай аб пасланні Канстытуцыйнага суда аб канстытуцыйнай законнасці ў Беларусі ў 1995 годзе.

Да 18 красавіка — у гэты дзень адновіць сваю работу сесія Вярхоўнага Савета — камісія спадзяецца канчаткова вызначыцца з галоўным рэдактарам парламенцкага органа — «Народнай газеты» (як вядома, прэзідэнцкім указам былы рэдактар Мікалай Галко зняты з пасады, а яго абавязкі выконвае галоўны рэдактар «Белорусской нивы» Міхаіл Шыманскі). Паводле прагнозаў У. Нісцюка, менавіта зняцце і прызначэнне галоўнага рэдактара «Народнай газеты» будзе ўключана ў блок кадравых пытанняў, якія сесія мае намер разгледзець пасля аднаўлення сваёй работы.

**Юрась ДУБІНА, БелаПАН.**

### БОЛЬШАСЦЬ МІНЧАН ЛІЧАЦЬ, ШТО ПАСЯДЖЭННІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ ТРЭБА ТРАНСЛІРАВАЦЬ ПА ТЭЛЕБАЧАННІ

**Сацыялагічнай службай «Люстэрка» кампаніі БелаПАН праведзена апытанне 300 жыхароў Мінска. Прадстаўнікам розных сацыяльна- дэмаграфічных груп насельніцтва прапаноўвалася адказаць на пытанне «СКАЖЫЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, ЦІ ДАСТАТКОВА ДЛЯ ВАС ЗВЕСТАК, АТРЫМЛІВАЕМЫХ ПА ТЭЛЕБАЧАННІ, РАДЫЁ І З ГАЗЕТ, АБ ДЗЕЙНАСЦІ АСНОЎНЫХ ГАЛІН УЛАДЫ?»**

Большасць рэспандэнтаў (57 прац.), як аказалася, задаволены ўласнай інфармаванасцю аб дзейнасці Прэзідэнта, кожны чацвёрты (24,14) лічыць, што падобнай інфармацыі яму не хапае. Астатнім (19 прац.) было цяжка адказаць. Значна менш інфармаваныя мінчане аб дзейнасці Кабінета Міністраў — толькі трэць (32 прац.) рэспандэнтаў адзначылі, што атрымліваемых звестак аб рабоце ўрада ім дастаткова. 44 працэнтам апытаных падобных звестак не хапае і кожнаму чацвёртаму рэспандэнту (24 прац.) было цяжка адказаць. З інфармаванасцю жыхароў сталіцы аб дзейнасці Вярхоўнага Савета справы яшчэ горшыя. Толькі чвэрці апытаных (26 прац.) звестак аб дзейнасці вышэйшага заканадаўчага органа Беларусі дастаткова. 45 працэнтаў рэспандэнтаў лічаць, што інфармацыі аб працы парламента ім не хапае. Астатнім (29 прац.) было цяжка адказаць. Большасць апытаных (76 прац.), адказваючы на другое пытанне інтэрв'ю **«ЯК ВЫ ЛІЧЫЦЕ, ТРЭБА АБО НЕ ТРЭБА ТРАНСЛІРАВАЦЬ ПА ТЭЛЕБАЧАННІ ПАСЯДЖЭННІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА?»,** выказалася за вяртанне практыкі трансліравання пасяджэнняў парламента. Пры гэтым больш чым трэць рэспандэнтаў (36 прац.) лічаць, што трэба трансліраваць «усё», 40 працэнтаў выказаліся за трансляцыю «найбольш важных пасяджэнняў». Толькі 12 працэнтаў далі адказ — «не трэба наогул». «Абыякавых» да гэтага пытання аказалася 4 працэнты апытаных. Васьмі працэнтам рэспандэнтаў было цяжка адказаць.

**Леанід МІХЕЙЧЫКАЎ, БелаПАН.**

### ЧАРГОВАЙ «АХВЯРАЙ» ХАБАРУ СТАЎ БЫЛЫ КІРАЎНІК ПРІФа

**Чарговае выпрабаванне падрыхтаваў лёс для акцыянераў Першага рэспубліканскага інвестыцыйнага фонду. Як вядома, арыштаваны былы кіраўнік ПРІФа.**

Аднак, нягледзячы на ўсю трагікамічнасць гэтага факта (калі ўлічыць тое, што ў апошні час адбывалася вакол гэтага фонду), людзям, якія аддалі перавагу Першаму інвестыцыйнаму, пакуль падстаў для празмернага хвалявання няма: Семянкоў арыштаваны зусім не па справах Першага рэспубліканскага інвестыцыйнага фонду. Як удалося высветліць, былы кіраўнік фонду абвінавачваецца ў атрыманні хабару. Вядзецца следства, і, зразумела, аб падрабязнасцях гэтай справы стане вядома крыху пазней.

**Ігар ГРЫШЫН.**





### КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ

**у камерцыйных банках на 2 красавіка 1996 г.**

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Белбізнесбанк (гал. аперац. упраўл.) | 12800 | 13100 | 8500 | 8800 | 2.45 | 2.65 | 769-533 |
| Белбізнесбанк (гар. дыр.) | 12800 | 13250 | 8500 | 8900 | 2.45 | 2.65 | 271-906 067 |
| ФК «Вераніка»* (за расійскія рублі) | 12820 4880 | 13020 5000 | 8600 | 8900 | 2.60 | 2.70 | 531-504 |
| Банк «INKO» (за расійскія рублі) | 12800 4925 | 13200 5059 | 8600 | 8900 | 2.53 | 2.68 | 238-020 |
| Мінскі транзітны банк* | 12800 | 13100 | 8500 | 8900 | 2.50 | 2.65 | 298-174 |
| Ф-л 0104 АКБ «Минский транзитный банк» | 12850 | 13000 | 8550 | 8750 | 2.45 | 2.60 | 372-825 |
| Народны банк | 12800 | 13000 | 8600 | 8750 | 2.48 | 2.60 | 238-610 |
| «Алімп» | 12750 | 14000 | 8400 | 8700 | 2.50 | 2.70 | 589-649 |
| Ф-л № 1 АКБ «Алімп» | 12900 | 13300 | 8500 | 8650 | 2.50 | 2.60 | 291-646 |
| Магазін «Панарама», фірмы «Энергія ГмбХ» | 12600 | 13200 | 8400 | 9100 | 2.52 | 2.75 | 265-612 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безн. разл.) | 11500 | | 7740.46 | | 2.36 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 4854 | | 3268.03 | | 100 бел.р. 37.50 | | |

* — Аперацыя з валютай звыш 1000 $ праводзіцца на дагаворных умовах

**Агенцтва Граўцова.**

## *А. ЛУКАШЭНКА:* «МЫ ЗРАБІЛІ КРОК, ДЗЯКУЮЧЫ ЯКОМУ БЕЛАРУСКІ І РАСІЙСКІ НАРОДЫ ЎВОЙДУЦЬ У XXI СТАГОДДЗЕ АДЗІНАЙ І ПРАЦВІТАЮЧАЙ СЯМ'ЁЙ»



Падзеяй, да якой нашы народы імкнуліся ўсе гады, назваў Прэзідэнт А. Лукашэнка дагавор аб стварэнні Супольніцтва Суверэнных Рэспублік напярэдадні яго падпісання.

Паводле слоў Прэзідэнта, менавіта гэты дакумент дазволіць зрабіць значны крок наперад і стварыць агульны дом. Аб'яднаўшы інтэлект, матэрыяльныя рэсурсы, беларускі і расійскі народы змогуць хутчэй пераадолець крызісныя з'явы і будуць адыгрываць больш значную ролю на міжнароднай арэне.

Супольніцтва не толькі не абмяжуе правы суб'ектаў Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі, але і ўмацуе суверэнітэт дзяржаў. Асабліва важна, сказаў А.Лукашэнка, што яно ствараецца не дзеля палітычнай кан'юнктуры, а ў інтарэсах простых людзей — беларускіх і расійскіх грамадзян. Паколькі пасля падпісання дагавора яны будуць мець нязмерна больш магчымасцей для рэалізацыі сваіх здольнасцей, абароны правоў і свабод.

Супольніцтва будзе ўяўляць сабой вышэйшую форму інтэграцыі на тэрыторыі былога Савецкага Саюза і арганічна спалучацца з дагаворам, падпісаным 29 сакавіка паміж Беларуссю, Расіяй, Казахстанам і Кіргізіяй.

Выступаючы напярэдадні падпісання двухбаковага дагавора, Барыс Ельцын адзначыў глыбокую сімвалічнасць таго, што менавіта Расія і Беларусь першымі з краін СНД зрабілі такі выбар. «У нас адзіныя славянскія карані, агульная шматвяковая гісторыя, — сказаў ён. — Няшмат ёсць у свеце народаў, чалавечыя лёсы якіх былі б так цесна пераплецены». Ельцын таксама заявіў, што мае намер зрабіць усё, што ад яго залежыць, каб хутчэй дабіцца пазітыўных зрухаў, перш за ўсё ў сацыяльнай сферы, каб дагавор запрацаваў з поўнай аддачай на карысць людзей.

Пасля выступленняў перад членамі афіцыйнай дэлегацыі ў Георгіеўскай зале Крамля кіраўнікі дзвюх дзяржаў падпісалі Дагавор аб утварэнні Супольніцтва Суверэнных Рэспублік. Затым Аляксандр Лукашэнка і Барыс Ельцын у суправаджэнні патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II праз Святыя сені выйшлі на Красны ганак і спусціліся на Саборную плошчу Крамля, дзе яшчэ раз выступілі перад грамадзянамі Беларусі і Расіі, якія сабраліся тут.

Гаворачы аб мэце падпісання дагавора, Ельцын, у прыватнасці, сказаў: «Мы хочам, каб трактары «Беларусь» і аўтамабілі «БелАЗ» сталі канкурэнтаздольнымі на сусветным рынку. І тады праца цэлых пакаленняў расіян і беларусаў не будзе дарэмнай. Мы хочам, каб цюменская нафта ішла на экспарт пасля яе перапрацоўкі на навапалацкім камбінаце. І тады стануць багацейшымі і расіяне, і беларусы».

Згодна з падпісаным 2 красавіка ў Маскве дагаворам, паводле слоў абодвух прэзідэнтаў, Расія і Беларусь забяспечаць людзям роўныя правы пры атрыманні адукацыі, у працаўладкаванні, аплаце працы. Будзе адзіная сістэма сацыяльнай абароны. Паступова зраўняюцца ўмовы жыцця людзей, перш за ўсё ветэранаў вайны і працы, інвалідаў. Словам, дагавор дапаможа больш эфектыўна і поўна рэалізаваць нацыянальныя інтарэсы дзвюх дзяржаў.

У дагаворы таксама адзначаецца, што бакі ўзгадняюць сваю знешнюю палітыку, выпрацоўваючы агульныя пазіцыі па асноўных міжнародных пытаннях; узаемадзейнічаюць у забеспячэнні бяспекі, ахове граніц і барацьбе са злачыннасцю; распрацоўваюць агульныя прынцыпы ваеннага будаўніцтва, выкарыстоўваючы элементы інфраструктуры ў адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам. Для фарміравання адзінай эканамічнай прасторы, эфектыўнага функцыянавання агульнага рынку і свабоднага прасоўвання тавараў, паслуг, капіталаў і рабочай сілы да канца 1997 года бакі сінхранізуюць этапы, тэрміны і глыбіню праводзімых эканамічных рэформаў, ствараць адзіную нарматыўна-прававую базу.

Да канца 1996 года абедзве дзяржавы забяспечаць правядзенне мераў па фарміраванню агульнатранспартнай сістэмы з адзінымі тарыфамі па перавозцы грузаў і пасажыраў, а таксама аб'яднанай энергасістэмы, агульнай навукова-тэхналагічнай і інфармацыйнай прасторы. Да канца 1997 года будзе праводзіцца уніфікацыя грашова-крэдытных і бюджэтных сістэм бакоў, а таксама будуць ствараццa ўмовы для ўвядзення агульнай валюты. Пачынаючы з 1997 года будзе ажыццяўляцца пераход да складання сумесных балансаў вытворчых магутнасцей і ўзгодненага іх выкарыстання ва ўзаемных інтарэсах.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**

*Масква.*

## РУХ НАСУСТРАЧ

### Прапануем некалькі інтэрв'ю, якія ўзяў учора ў Крамлі спецыяльны карэспандэнт «Звязды» Уладзімір НАРКЕВІЧ

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён ШАРЭЦКІ:**

— Жыццё аказалася мудрэйшае за ўсіх нас. Сёння той дзень, якога сапраўды чакалі нашы людзі.

**Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл ЧЫГІР:**

— Задача Расіі і Беларусі паказаць, што гэта дае канкрэтны станоўчы эфект. Калі мы не дапусцім памылак, то да гэтага працэсу хутчэй за ўсё далучыцца, на мой погляд, Украіна. Але мы не павінны наступаць на нацыянальныя інтарэсы, на імкненне захаваць культуру.

**Кіраўнік урада Расійскай Федэрацыі Віктар ЧАРНАМЫРДЗІН:**

— Нас хацелі расцягнуць сілай. І вось сёння здзейснілася: дзве дзяржавы — пакуль дзве — аб'ядналіся, гэта сапраўднае свята. Я перакананы: мы былі, ёсць і будзем заўсёды разам. Разам мы ўсё перажывём: любую бяду, гора і радасць лягчэй пераносіць і лягчэй радавацца. Тое, што мы зараз зрабілі, — гэта найвялікшы крок. Я хачу ад усёй душы павіншаваць усіх. Вы ведаеце, я якраз той чалавек, які апошнія два гады пастаянна працаваў над гэтай праблемай.

***— Якая наступная краіна, на вашу думку, далучыцца да гэтага пагаднення?***

— Гэта добраахвотная справа, ніхто нікога сілай не заганяе, кожны народ павінен сам вырашыць. Я перакананы: народ вырашыць.

***— Значыць, лік краін у пагадненні будзе павялічвацца?***

— Я перакананы ў гэтым.

**Кандыдат у Прэзідэнты Расіі Генадзь ЗЮГАНАЎ:**

— У мяне свята — вялікае, сапраўднае. Заўсёды лічыў, што адзінства рускіх і беларусаў — гэта аснова ўсяго — і культуры, і будучыні нашых краін. І вельмі рады, што гэта сёння адбылося.

***— Вы цяпер успамінаеце гады службы ў Беларусі, ва Уруччы?***

— Я ўспамінаю з добрым пачуццём, нават помню сяржанта беларуса Квача. У мяне шмат было сяброў з Беларусі, я нават помню фразу: «Бяром трапку і наводзім парадак».

**Патрыяршы Экзарх Беларусі ФІЛАРЭТ:**

— Спраўдзіліся ідэі Царквы. Ідэі Праваслаўя, ідэі адзінства народаў, адзінства чалавечага роду. Мы часта забываем, што ў нас агульная Маці-Царква. І калі адбываюцца такія акты яднання — то радуецца сэрца, значыць Царква права. Што яна так працівіцца ўсякаму раз'яднанню.

**Кандыдат у Прэзідэнты Расіі Уладзімір ЖЫРЫНОЎСКІ:**

— Для мяне сёння свята. У нас увогуле ёсць агульныя святы. Да гэтага шмат што было з душком — хтосьці там камусьці здраджваў, не здраджваў. А цяпер — чыстае поле, закладзены першыя два камяні будучага магутнага падмурка, які ніхто ніколі не павінен расцягваць.

***— Колькі, на вашу думку, камянёў будзе ў гэтым падмурку?***

— Дзевяць! Закаўказзе не трэба. І Прыбалтыкі не трэба. Але Вільнюс трэба вярнуць Беларусі.

***— Акрамя краін СНД, хто яшчэ мог бы ўвайсці ў новую Супольнасць?***

— Сербія, Балгарыя. Таджыкістан захоча абавязкова. Казахстан, Кіргізія... Славакія, можа. Многія... Трэба рабіць так разумна, каб гэта не было ні для каго цяжарам, каб гэта было на вякі. Трэба раздзяляць палітыку і эканоміку. Каб развівалася эканоміка, а палітыка — асобна. Каб палітыкам было менш работы.

**Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі Міхаіл МЯСНІКОВІЧ:**

— Вельмі рады, што шматгадовая праца завяршылася паспяхова, што рашэнні, якія падпісалі Прэзідэнты, атрымалі адабрэнне і падтрымку народаў. І мітынгі, якія праходзілі, і пошта ў Адміністрацыі Прэзідэнта сведчаць аб тым, што рашэнне прынята правільнае. Цяпер галоўная задача — рэалізаваць тое, што намечана.

***— Вы ўпэўнены, што сённяшняе пагадненне будзе эфектыўна дзейнічаць, не паўторыць лёс ранейшых дамоўленасцей у рамках СНД?***

— Мы рэалізуем тое, што запісалі. Для гэтага ёсць усе падставы. Я хачу сказаць тое, чаго раней нікому не гаварыў: лічу, што пераходны перыяд супрацоўніцтва ў рамках СНД закончыўся. Мы адну ступеньку ўжо прайшлі і выходзім на прынцыпова новую якасць.

**Былы Старшыня Савета Міністраў СССР Мікалай РЫЖКОЎ:**

— Да гэтага пагаднення будуць паступова далучацца і іншыя рэспублікі. Гэта не адразу адбудзецца. Няхай яны даспяваюць да гэтага, але я перакананы, што далучацца, таму што тут, у пагадненні, закладзена правільная аснова. Думаю, што будзе нават не Супольнасць, як называецца сёння, а Саюз Суверэнных Дзяржаў.

**Народны артыст СССР, старшыня Канфедэрацыі творчых саюзаў Беларусі Мікалай ЯРОМЕНКА:**

— Я адназначна за аб'яднанне, за інтэграцыю. Вядома, Беларусь павінна заставацца суверэннай Беларуссю. Тут пытанняў не павінна быць. На Захадзе ўжо ёсць саюз, адкрытыя граніцы і ніхто свайго нацыянальнага твару не губляе.

**Народны мастак Беларусі Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК:**

— Мы жылі адной сям'ёй, а цяпер аказалася, што наш «шлюб» не быў зарэгістраваны. Нават трохі няёмка сябе адчуваеш. Можа, гэта не зусім удалы прыклад, але менавіта я так успрымаю гэта. Мы ў цэнтры Еўропы — трэба сябраваць з усімі — і на Усходзе, і на Захадзе, і на Поўначы, і на Поўдні.

**Начальнік цэнтра падрыхтоўкі касманаўтаў Пётр КЛІМУК:**

— Інтэграцыя дапаможа аднавіць народную гаспадарку дзвюх краін, запрацаваць тым прадпрыемствам, якія цяпер на мелі.

***— Беларускія касманаўты зноў паляцяць у космас?***

— У нас у атрадзе касманаўтаў цяпер цяжка сказаць, хто беларус, хто рускі — маці беларуска, бацька рускі, і наадварот — мы не дзелімся па нацыянальнасцях. А беларусы, як і рускія, будуць, вядома, лятаць.

**Выканаўчы сакратар СНД Іван КАРАТЧЭНЯ:**

— Да сённяшняга пагаднення мы доўга ішлі, доўга рыхтаваліся. Сёння прынята палітычнае рашэнне, якое, на мой погляд, стане тым рашэннем, дзеля якога можна было амаль пяць гадоў асабіста мне жыць, працаваць і спадзявацца.

## БЕЛАРУСЬ — РАСІЯ: НА ШЛЯХУ ДА САЮЗА

**2 красавіка, як вядома, Беларусь і Расія падпісалі Дагавор аб саюзе. Да гэтага пагаднення два брацкія народы няпроста, але ўпэўнена ішлі ўсе гады пасля развалу Савецкага Саюза. Вось некаторыя этапы іх эканамічнага збліжэння ў 1992 — 1996 гадах.**

Дыпламатычныя адносіны паміж Рэспублікай Беларусь і Расійскай Федэрацыяй устаноўлены 25 чэрвеня 1992-га.

20 ліпеня таго ж года падпісаннем каля трыццаці дакументаў завяршылася ў Маскве сустрэча ўрадавых дэлегацый дзвюх нашых краін. Сярод важнейшых з іх — пагадненне аб умовах паставак прадукцыі, тавараў, сыравіны, харчавання паміж прадпрыемствамі і арганізацыямі Расіі і Беларусі, пагадненне аб цэнаўтварэнні на прадукцыю міждзяржаўнага абмену, пагадненне аб падатковай палітыцы, дагавор аб супрацоўніцтве ў ваеннай галіне.

13 лістапада 1992-га падпісана пагадненне аб свабодным гандлі.

Адной з асноўных падзей эканамічнага супрацоўніцтва ў 1993 годзе стала падпісанне 2 сакавіка пагаднення аб супрацоўніцтве ў развіцці нафтавай і газавай прамысловасці Расіі. Паводле даных беларускай прэсы, Расія на 90 працэнтаў забяспечвае Беларусь паліўна-энергетычнымі рэсурсамі.

У 1994-м годзе 5 студзеня былі падпісаны два важныя пагадненні: аб пастаўцы расійскага прыроднага газу ў Беларусь і стварэнні сістэмы транзітных газаправодаў на тэрыторыі рэспублікі, а таксама аб супрацоўніцтве ў галіне перапрацоўкі нафты.

12 красавіка таго ж года падпісаны Дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм нашых краін, а таксама сем двухбаковых дакументаў, якія з'яўляюцца неад'емнай часткай Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм.

Важнай вяхой развіцця супрацоўніцтва стаў праведзены 21-22 лютага 1995 года афіцыйны візіт Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына ў Беларусь. У ходзе візіту падпісаны Дагавор аб дружбе, добрасуседстве і супрацоўніцтве. Акрамя таго, было заключана яшчэ 8 розных пагадненняў. Два з іх падпісалі самі прэзідэнты: «Аб адзінстве кіравання мытнымі службамі», «Аб сумесных намаганнях у ахове дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь». У выніку перагавораў прэзідэнтаў дзвюх краін расійска-беларуская граніца стала поўнасцю празрыстай, зняты пагранічныя слупы.

Дынамічна пачаўся 1996 год. 27 лютага Барыс Ельцын і Аляксандр Лукашэнка пасля заканчэння перагавораў у Крамлі падпісалі два дакументы: сумесную заяву і пагадненне аб урэгуляванні прэтэнзій фінансавага характару. Як паведаміў Барыс Ельцын у гутарцы з журналістамі, пагадненне па фінансавых пытаннях прадугледжвае «нулявы варыянт» адносна ўзаемных запазычанасцей дзвюх краін. «З гэтага моманту ніхто нікому не вінен, і на гэтай аснове мы можам будаваць інтэграцыйныя адносіны», — заявіў кіраўнік расійскай дзяржавы.

У той жа дзень Расія і Беларусь падпісалі пакет з шасці дакументаў у галіне развіцця двухбаковага супрацоўніцтва. Сярод іх: аб напрамках гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва, па цэнавай палітыцы, аб узаемным прызнанні і эквівалентнасці дакументаў аб адукацыі, вучоных ступенях і званнях, аб супрацоўніцтве па развіццю аўтамабільнай дарогі Масква—Мінск—Варшава—Берлін на ўчастку Брэст—Мінск—Масква, аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве і аб супрацоўніцтве ў галіне інфарматызацыі і вылічальнай тэхнікі.

29 сакавіка Расія, Беларусь, Казахстан і Кіргізія падпісалі Дагавор аб паглыбленай інтэграцыі эканомік чатырох краін.

Аднак дзве славянскія рэспублікі маюць намер пайсці ў сваіх інтэграцыйных пачынаннях яшчэ далей.

**ІТАР-ТАСС—БЕЛТА.**

*АФІЦЫЙНА*

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

На пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета, якое адбылося 1 красавіка пад старшынствам Сямёна Шарэцкага, абмеркаваны і ў асноўным узгоднены графік падрыхтоўкі законапраектаў і іншых актаў, якія ўнесены ў парадак дня першай сесіі. Зацверджаны каштарыс расходаў Беларускага інстытута дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства на 1996 год. Створана Камісія Прэзідыума па прысваенню класаў служачых дзяржаўнага апарату работнікам Сакратарыята, якія назначаюцца на пасады Вярхоўным Саветам або яго Прэзідыумам, старшыням Кантрольнай палаты і Нацыянальнага банка і іх намеснікам.

Разгледжаны таксама шэраг іншых пытанняў.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета—БЕЛТА.**

## У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў прыняў пастанову, згодна з якой рэалізацыя затрыманых, забраных мытнымі і іншымі праваахоўнымі органамі Рэспублікі Беларусь чорных, каляровых металаў, іх лому і адходаў, па якіх прыняты ва ўстаноўленым парадку рашэнні аб канфіскацыі, ажыццяўляецца Беларускім дзяржаўным аб'яднаннем па нарыхтоўцы, перапрацоўцы і пастаўцы лому і адходаў чорных і каляровых металаў. Аналіз, перапрацоўка, сертыфікацыя і рэалізацыя гэтых металаў, а таксама лому і адходаў, якія ўтрымліваюць іх, ажыццяўляюцца Беларускім дзяржаўным універсітэтам (Навукова-даследчым інстытутам фізіка-хімічных праблем).

Гэтай жа пастановай Беларускаму дзяржаўнаму аб'яднанню па нарыхтоўцы, перапрацоўцы і пастаўцы лому і адходаў чорных і каляровых металаў і Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту (Навукова-даследчаму інстытуту фізіка-хімічных праблем) даручана забяспечыць своечасовы вываз з месцаў часовага захоўвання металаў, лому і адходаў, па якіх прынята ва ўстаноўленым парадку рашэнне аб канфіскацыі, а таксама ажыццяўляць на дагаворнай аснове ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам прыём на захоўванне забраных мытнымі і іншымі праваахоўнымі органамі нашай рэспублікі металаў, лому і адходаў да прыняцця рашэння аб іх канфіскацыі.

Панесеныя ў сувязі з гэтым затраты, гаворыцца далей у пастанове, пакрываюцца са сродкаў, атрыманых ад рэалізацыі названых металаў, лому і адходаў.

Міністэрству эканомікі сумесна з Міністэрствам фінансаў, Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыяй пры Кабінеце Міністраў даручана распрацаваць і зацвердзіць парадак устанаўлення цэн на ўказаныя металы, лом і адходы і ўнясення сродкаў у бюджэт ад іх рэалізацыі.

Адначасова Міністэрству адукацыі і навукі сумесна з Міністэрствам прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, Акадэміяй навук Беларусі і іншымі зацікаўленымі неабходна распрацаваць і зацвердзіць парадак захоўвання, перапрацоўкі, транспарціроўкі затрыманых, забраных, канфіскаваных ва ўстаноўленым парадку і перададзеных для рэалізацыі радыеактыўных, таксічных і небяспечных па іншых паказчыках рэдкіх і рэдказямельных металаў, а таксама лому і адходаў, якія ўтрымліваюць іх.

У прынятай пастанове таксама дадзена даручэнне Міністэрству эканомікі сумесна з міністэрствамі фінансаў, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, прамысловасці, Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыяй пры Кабінеце Міністраў, Міністэрствам адукацыі і навукі, Беларускім дзяржаўным аб'яднаннем па нарыхтоўцы, перапрацоўцы і пастаўцы лому і адходаў чорных і каляровых металаў утварыць камісію для вызначэння напрамкаў выкарыстання і рэалізацыі канфіскаваных рэдкіх і рэдказямельных металаў, а таксама лому і адходаў, якія іх утрымліваюць.

* * *

Кабінет Міністраў пастанавіў пункт 20 Палажэння аб парадку перамяшчэння фізічнымі асобамі рэчаў праз мытную граніцу Рэспублікі Беларусь, зацверджанага раней прынятай ім пастановай ад 5 жніўня 1995 г. № 419, дапоўніць абзацам наступнага зместу:

«Мэбля, класіфікуемая ў таварных пазіцыях 9401 і 9403, пры ўвозе на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь абкладаецца мытнымі плацяжамі па адзінай стаўцы, роўнай 30 працэнтам яе мытнага кошту».

* * *

Кабінет Міністраў прынятай пастановай зацвердзіў Правілы дарожнага руху.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў—БЕЛТА.**

## КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД ВЫВУЧАЕ ПУБЛІКАЦЫЮ ПРЭЗІДЭНТА

У Канстытуцыйны суд паступаюць шматлікія звароты наконт публікацыі Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі «Аб Пасланні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь», што была абнародавана сродкамі масавай інфармацыі 29-30 сакавіка гэтага года. Аб гэтым карэспандэнту БЕЛТА паведамілі з прэс-цэнтра суда. Як стала вядома, цяпер гэта публікацыя вывучаецца суддзямі Канстытуцыйнага суда. Аб выніках яе вывучэння будзе паведамлена.

**БЕЛТА.**

